


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

5 верасня 2003 года

№ 36 (437)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

ПЛЮС ТэлетыДзень


## Навіны рэгіёну

### Сустрэчы са старажыламі

**СМАРГОНЬ.** У дзіцячай бібліятэцы адбылася сустрэча чытачоў з Ганнай і Уладзімірам Штэмплеўскімі, людзьмі, якія добра ведаюць гісторыю горада, працавалі з кнігамі XVII стагоддзя.

Госці расказалі, напрыклад, што раней у Смаргоні былі вуліцы Мядзведская і Скамарошная, а па Пецярбургскай хадзіла конка.

**Галіна КАРАВАЙ.**

### Яшчэ дзве гімназіі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Новыя гімназіі створаны на базе сярэдніх школ №3 і №6. Першага верасня адбылося іх урачыстае адкрыццё.

Віншавалі настаўнікаў і вучняў, жадалі «дзевятак» і «дзесятак» загадчык аддзела адукацыі Уладзімір Лягові і яго намеснік Клаўдзія Перхаровіч. Напрыканцы мерапрыемстваў у неба ўзляцелі галубкі — сімвал спакою новых гімназістаў.

**Святлана ЦІШКО.**

### Новая загадчыца

**ВАЛОЖЫН.** У раённым аддзеле адукацыі 1 верасня з'явілася новая загадчыца. На пасаду прызначана Святлана Глябовіч, якая да гэтага часу была дырэктарам СШ №2.

Яе папярэднік Вікенцій Гардынец перайшоў працаваць у Ждановіцкую школу-інтэрнат.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Абышлося...

**ВІЛЕЙКА.** Няшчасны выпадак адбыўся ў вёсцы Давыдкі Касцяневіцкага сельсавета. У старым будынку фермы, якая належыць раённаму унітарнаму сельгаспрадпрыемству "Першы Беларускі", абвалілася жалезабетонная пліта перакрыцця і прыціснула хлопчыка, які там гуляў. Дапамога падаспела своечасова, і 12-гадовы Дзіма быў дастаўлены ў бальніцу. 2 верасня яго перавялі з рэанімацыйнага аддзялення ў траўматалагічнае.

**Марына СЛІЖ.**

### Парадак на зямлі

**АШМЯНЫ.** Да канца верасня інспекцыі рэсурсаў і навакольнага асяроддзя належыць уладкаваць мініпаліганы і пляцоўкі для смецця ва ўсіх населеных пунктах, дзе больш за 50 дамоў. Экскаватар ужо папрацаваў ля вёсак Зарэчча, Нарбуты, Пятрулі, Ціханы.

Але многія жыхары не заключаюць дамовы і не плацяць камунальнікам за вывaз бытавых адходаў. У вёсцы Кракоўка калгас не змог узяць на сябе такія траты, і амаль усе вяскоўцы адмовіліся ад скрынак для смецця.

**Святлана ЦІШКО.**

# Пажар і сцен не пакідае

**ВІЛЕЙКА. П'янства і людская абыякавасць становяцца прычынамі пажараў, якія нішчаць не толькі жытло, але, быццам бы помсцячы чалавеку за бяспечнасць, забіраюць яшчэ і жыцці.**

Некалькі гадоў таму ў вёсцы Жары здарылася бяда. У агні, які ахапіў жылы дом, загінула двое дзяцей. Цудам уратавацца ўдалося толькі старэйшай дзяўчынцы, якая выскачыла з палаючай хаты цераз акно. Пазней яна раскажа, што хацела вынесці і сваю сястрычку, ды не хапіла сіл падняць яе да ўзроўню падаконніка...

Пра гэту трагедыю пісалі тады многія газеты, сюжэт, зняты пажарнымі, паказвалі па кабельным тэлебачанні ў Вілейцы. Толькі нездарма кажуць, што гора – настаўнік мудрых. Адны жыхары сельсавета зрабілі для сябе пэўныя вывады, другія, махнуўшы рукой, прадаўжаюць жыць з няспраўным пячным ацяпленнем, пакідаюць без нагляду газавыя пліты, электрапрыборы. За такую бяспечнасць плацяць дорага. Толькі ў адным Касцяневіцкім сельсавеце з пачатку года адбылося 10 пажараў, адзін чалавек загінуў.

Пажарныя асцерагаюцца, што гэты сумны спіс будзе папаўняцца і далей. Людзі "жартуюць" з агнём, а ён гэтага не любіць. Шмат такіх прыкладаў і ў вёсцы Геркі, што ў вышэй названым сельсавеце. У многіх дамах, як расказаў начальнік аварыйна-выратавальнага паста вёскі Людвінова Вілейскага аддзела па надзвычайных сітуацыях Сяргей Каўзовіч, няспраўная электраправодка, патрабуюць рамонту печкі і печы, шчыліны ў якіх "эканомныя" вяскоўцы пазатыкалі анучамі. Вядома, такіх людзей папярэджваюць, ушчуваюць, але далёка не ўсе яны спяшаюцца выконваць патрабаванні пажарных. Кожнаму здаецца, што няшчасце абміне яго хату. Ды толькі нездарма кажуць, што да пары, да часу збан ваду носіць.

Хочацца, каб успомніла гэту народную мудрасць і жыхарка вёскі Геркі Валянціна Бугай, дом якой можа загарэцца ў любую хвіліну. На крытай дранкай страсе комін, які даўно патрабуе рамонту, жанчына абставіла гнілымі дошкамі. Адной іскры хопіць, каб падпаліць такое "збудаванне", а з ім і падобнае на хляўчук жытло, якое, дарчы, таксама патрабуе рамонту.

Паглядзець на сваё жыццё іншымі вачыма трэба было б і Святлане Захаравіч, у доме якой таксама не выконваюцца элементарныя супрацьпажарныя правілы. Больш таго, гаспадары ўзялі за моду зачыняць на замок хворую маці. У дзень, калі наведаліся ў Геркі, дзверы іх хаты таксама былі зачыненыя. У той жа час, з коміна віўся дымок, а ў калідоры валяліся два газавыя балоны.

Кажуць, што агонь, самы страшны злодзей: не пакідае пасля сябе нават сцен. Тым не менш людзі не спяшаюцца засцерагаць ад яго сваю маёмасць, а быццам бы спрыяюць пажарам: ставяць ў пробкі для лічыльнікаў свята "жучкі", майструюць абагравальныя прыборы, кураць у ложках. У ноч на 1 верасня "камфорт" з ліку апошніх стаў прычынай пажару ў вёсцы Селішча. Згарэў жылы дом, а разам з ім і 45-і гадовы гаспадар. Шчаслівы выпадак уратаваў яго жонку і дачку: акурат у тую ноч яны не начавалі дома.

**Марына СЛІЖ.**



Начальнік аварыйна-выратавальнага паста вёскі Людвінова Сяргей Каўзовіч у час рэйду. Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

### Хутка новы сезон



Адразу пасля завяршэння апошняга гастрольнага выступлення драматычны тэатр пачаў падрыхтоўку да новага сезона.

4-я старонка

### Хто запальвае святлафоры?



Новыя сучасныя святлафоры ўстаноўлены ў Маладзечне. Аналагаў ім у Мінскай вобласці пакуль што няма.

7-я старонка

### Барыс Кіт асуджае тэрарызм

11 верасня – другая гадавіна самага буйнога тэрарыстычнага акта, сумны дзень найноўшай гісторыі. З Барысам Кітом па тэлефоне гутарыць карэспандэнт «РГ».

8-я старонка

■ НАША БУДУЧАЕ

# З кім застаецца вёска ?

**Калі гаворка заходзіць пра сельскую гаспадарку, то ў людзей часта ўзнікае асацыяцыя з калгасам ці саўгасам. Таму і ўяўляецца яна ў выглядзе памяшканняў для ўтрымання жывёлы, рамонтных майстэрняў, збожжасушылак.**

Асацыяцыя сельскай гаспадаркі з калгасам, які перажывае сёння не лепшыя часы, нараджае меркаванне, што калі "рэаніміраваць" калгас ці на яго базе стварыць іншую сельскагаспадарчую арганізацыю ў форме, да прыкладу, закрытага акцыянернага таварыства, на якіх свядома ці не плануецца ўскласці абавязкі па развіцці сацыяльнай сферы вёскі, то зберажом яе.



Думка пра выратаванне сельскай гаспадаркі шляхам «рэанімацыі» калгасаў – стэрэатып. Сельская гаспадарка – паняцце куды больш ёмкае за паняцце калгаса.

Фота з архіва IREX/ProMedia.

## Няма таго, што раньш было

У канцы 80-х пачатку 90-х гадоў калгасы і саўгасы па сутнасці ператварыліся ў мінідзяржавы, стабільнасць эканамічнага росту якіх у ва многім залежала ад таго, наколькі паспяхова кіраўніцтва гаспадарак вырашала ў комплексе вытворчыя пытанні і сацыяльныя праблемы. Такія ўмовы дазвалялі жыхару вёскі развівацца як асобе, а не быць проста "вінцікам" у вытворчым працэсе.

З боку дзяржавы ажыццяўлялася галіновае (вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі) і тэрытарыяльнае (вёска) развіццё сельскай гаспадаркі праз калгасы і саўгасы. Пытанні занятасці насельніцтва вырашаліся за кошт пераразмеркавання працоўных рэсурсаў унутры гаспадаркі: адкрыцця новых відаў дзейнасці, увядзення двухдзённых выхадных і г.д.

Прадпрыемствамі забяспечвалася самаарганізацыя і ў значнай ступені самафінансаванне.

Канечне, не ўсё добра было ў тых калгасах. Аднак у калгасах цяперашніх з таго, што яны мелі раней, практычна нічога не засталося.

Многія з іх з-за зношанасці матэрыяльна-тэхнічнай базы, адсутнасці ўласных абаротных сродкаў страчваюць ці ўжо страцілі кіруемасць як арганізацыйнае, так і тэхналагічнае. Насельніцтва, якое пражывае на іх тэрыторыі, застаецца без работы і сацыяльнай абароны.

Як дапамагчы вёсцы? Пры гэтым нельга асацыяваць вёску і калгас, бо калгас – гэта ўсяго толькі адзін з суб'ектаў у сельскай гаспадарцы.

Ініцыятыву павінна ўзяць у свае рукі мясцовая ўлада – сельскія, пасялковыя, раённыя Саветы — з мэтай каардынацыі жыццядзейнасці на падведамаснай ім тэрыторыі і з улікам яе асаблівасцей і шматукладнасці. Менавіта яны павінны выконваць функцыі "міні-дзяржавы", якія выконвалі тыя калгасы, быць праваднікамі дзяржаўнай палітыкі.

У той жа час, як паказвае практыка, многія сельскія Саветы не ў стане ўзяць на сябе такую ініцыятыву. Тлумачыцца гэта наступным.

Па-першае, не хапае вопыту, бо сельскія Саветы знаходзіліся ў асноўным ў ролі статыста ці канцылярскага работніка.

Па-другое, нязначны ці амаль адсутнічае мясцовы бюджэт.

Па-трэцяе, недастатковы аўтарытэт мясцовай улады ў свайго насельніцтва.

Аднак спадзявацца на тое, што вось прыйдзе новы старшыня і зменіць сітуацыю да лепшага, напэўна, не варта. Варыянты з "малайцамі-ўдальцамі" не выратуюць справу. Патрэбна дакладная дзяржаўная палітыка ў адносінах да сельскай гаспадаркі.

## Патрэбна дзяржаўная палітыка

У гэтай палітыцы асноўны ўпор трэба рабіць не на праграмы, якія забяспечваюць вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі, а на праграмы развіцця вёскі. Неабходна імкнуцца да развіцця сельскіх рэгіёнаў пры дапамозе мясцовай улады. Трэба стварыць умовы для іх самаарганізацыі і самарэалізацыі. Без забеспячэння гэтых умоў выклікае сумненні жыццядзейнасць у сельскай мясцовасці сацыяльных стандартаў па абслугоўванні насельніцтва рэспублікі, выкладзеных у пастанове №724 Савета Міністраў. Бо на раённым узроўні і тым больш на рэспубліканскім іх эфектыўнае функцыяніраванне не арганізуеш: патрэбны вялікія сродкі і вялікі штат.

Да таго ж сельская гаспадарка сёння страчвае крыніцы даходу, спажывецкія здольнасці насельніцтва рэзка падаюць (узровень запазычанасці па зарплаце расце, сярэдняя зарплата не высокая), павялічваецца спажыванне спіртнога. Ці скарыстаецца ў такім выпадку насельніцтва паслугамі, прадугледжанымі сацыяльнымі стандартамі.

Як сведчыць вопыт заходніх краін, які можа быць карысным і нашай дзяржаве, у апошнія гады развіццё сельскай гаспадаркі ў іх ажыццяўляецца па наступных напрамках:

– стварэнне ўмоў для прадпрымальніцкай дзейнасці ці развіцця аграбізнесу (бізнесу на сельскагаспадарчай тэрыторыі, напрыклад, турызму і іншых відаў дзейнасці, якія не звязаныя непасрэдна з сельскагаспадарчай вытворчасцю);

– намаганні дзяржавы накіроўваюцца на прыцягненне і вяртанне гарадскога насельніцтва калі не ў самую сельскую гаспадарку, то ў сельскія раёны;

– сельскаму ладу жыцця надаецца большая камфартабельнасць, сацыяльная значнасць;

– павышаецца эфектыўнасць вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі.

У сваю чаргу ключавым звяном развіцця гэтых напрамкаў з'яўляецца інфраструктура, у якой можна выдзеліць чатыры адносна самастойныя блокі.

Па-першае, сістэма і сродкі камунікацыі. І ў першую чаргу – транспартная сістэма. Вялікую ролю адыгрывае сістэма тэлефоннай, радыётэлефоннай і іншых відаў сучаснай сувязі. Гэта стварае роўныя перадумовы для гандлёвых арганізацый, заключэння розных рынкавых здзелак, хуткага атрымання і апрацоўкі інфармацыі.

Па-другое, фінансавая сістэма як неад'емная частка інфраструктуры сельскіх раёнаў. Свабодны пераліў грашовых сродкаў, наяўнасць капіталаў, іх даступнасць – ключавое звяно функцыяніравання рыначнага механізму.

Па-трэцяе, сфера вытворчага абслугоўвання дзелавой актыўнасці. Яна можа быць прадстаўлена буйнымі, сярэднімі і дробнымі прадпрыемствамі, якія аказваюць розныя вытворчыя паслугі (захоўванне, рэалізацыя, гандаль і многае іншае) сельскагаспадарчай і прамысловай вытворчасцю у сельскай мясцовасці. Напрыклад, у ЗША толькі нязначная доля таварнай прадукцыі (менш 5%), выраблена фермерамі, рэалізуецца імі ў розніцу самастойна – праз фермерскія рынкі, прыдарожны гандаль, кірмашы.

У чацвёртых, сфера сацыяльна-культурнага абслугоўвання сельскай мясцовасці, якая ўключае школы, клубы, бальніцы і г.д. Тут павінны з'явіцца новыя сацыяльна-культурныя цэнтры, арыентаваныя на высакаякаснае абслугоўванне забяспечаных слаёў насельніцтва.

Развіццё інфраструктуры сельскіх раёнаў павінна быць неразрыўна звязана і заснавана ў першую чаргу на бюджэтным фінансаванні і дзяржаўных сацыяльных і эканамічных праграмах. Многія, мабыць, скажуць, што ўсё разумеем, але вось у грашах праблема, дзе іх узяць?

Тады ўзнікае сустрэчнае пытанне, а колькі іх трэба? І тут, без усялякага сумнення, разбег у сумах будзе вялікі. Гэта будзе залежаць ад таго, якую схему вырашэння дадзенай праблемы бачыць кожны з іх. Напрыклад, можна прапанаваць некалькі схем: дзяржава за кошт бюджэтных рэсурсаў за вызначаны прамежак часу стварае інфраструктуру "пад ключ" і перадае яе ў вядзенне мясцовай улады (сума затрат адна); дзяржава распрацоўвае механізм, які стымулюе праяўленне ініцыятывы на месцах у вырашэнні дадзенай праблемы з улікам інтарэсаў і магчымасцей юрыдычных і фізічных асоб (сума затрат іншая).

Акрамя таго, важна ўлічваць і псіхалагічны аспект — адны адносіны да таго, што атрымліваеш у цэлым (можа, нават не заўсёды тое, чаго чакаеш) і другія, калі сам непасрэдна ўдзельнічаеш у стварэнні нечага і пры гэтым улічваюцца твае пажаданні. З гэтага вынікае, што перад тым, як гаварыць аб грашовых пытаннях, варта распрацаваць аптымальную схему рашэння праблемы, якая павінна вызначыць мэты, прынцыпы, этапы, фінансаванне. Трэба адзначыць, што схема ў выглядзе мадэлі павінна зыходзіць ад мясцовай улады, што не толькі павысіць яе ініцыятыву, але і адказнасць за прымаемае рашэнне.

## Кадры – залог поспеху

У развіцці сельскай гаспадаркі нельга абысціся без развіцця кадравай палітыкі ў адносінах да мясцовых структур улады, якая павінна забяспечваць падбор кадраў, іх падрыхтоўку, сістэму матывацыі да працы ў займаемых пасадах, інфармацыйнае забеспячэнне і г.д., што ў сваю чаргу павысіць іх аўтарытэт.

Такім чынам, развіццё сельскай гаспадаркі – гэта не мінутны працэс, а працэс, які патрабуе творчага падыходу, часу і сродкаў. Аднак вырашаць яго неабходна ўжо цяпер, бо ў народнай гаспадарцы нашай краіны аграрны сектар займае значнае месца. Па меркаванні іншых, гэта з'яўляецца адным з недахопаў нашай дзяржавы, што яна "паўаграрная". Разам з тым, пры добрым размеркаванні ролі сельскай гаспадаркі ў эканоміцы краіны, стварэнні ўмоў для яе развіцця, гэты недахоп можа ператварыцца ў перавагу ў параўнанні з краінамі так званай рынкавай сістэмы. Многія з іх на сённяшні дзень перажываюць праблемы, звязаныя з інтэнсіўным працэсам урбанізацыі, неадпаведнасцю умоў для жыцця чалавека, ствараемых у гарадах, самой прыродзе чалавека. Іншымі словамі, ствараецца дыскамфорт, які вядзе да росту стрэсавых сітуацый, развіцця розных захворванняў, адначасова абжытыя сельскагаспадарчыя раёны ператвараюцца ў пусткі.

Неабходна дадаць, што пад уздзеяннем навукова-тэхнічнага прагрэсу (інфармацыйных тэхналогій, развіцця транспарту), змянення прыярытэтаў, як асобы, так і грамадства, праца ўсё больш набывае віртуальны характар. У выніку расце колькасць людзей, што займаюцца той працай, выкананне якой магчыма практычна з любога пункту зямнога шара.

Таму сельская гаспадарка — гэта не толькі тое месца, дзе жывуць сяляне, вырошчваюць бульбу і пасуць кароў, – гэта і наша будучыня.

**Міхаіл ПЯТРОЎСКІ, выкладчык Інстытута кіравання АПК, Мінск.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 28.08 руб. | 4.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2089,00 | 2093,00 |
| Еўра | 2269,80 | 2257,41 |
| Злоты | 520,49 | 517,72 |
| Літ | 657,51 | 653,80 |
| Расійскі рубель | 68,74 | 68,39 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2080/2100 | 2090/2115 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 27.08 | 3.09 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 12500 | 12630 |
| Сасіскі, 1 кг | 4150 | 4130 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 0,9 кг | 780 | 800 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1350 | 1400 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 850 | 1000 |
| Алей, 1 л | 1950 | 1950 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 450 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 800 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 800 | 800 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 900 | 1000 |
| Капуста, 1 кг | 250 | 250 |
| Морква, 1 кг | 500 | 500 |
| Лімоны, 1 кг | 1900 | 1800 |
| Апельсіны, 1 кг | 1950 | 1950 |
| Памідоры, 1 кг | 900 | 850 |
| Агуркі, 1 кг | 500 | 500 |
| Кавуны, 1 кг | 500 | 500 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 750 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4800 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1750 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1500 | 1300 |
| Чарніцы, 5-літр. вядро | 10000 | 8000 |
| Слівы, 5-літр. вядро | 6000 | 5000 |
| Шыпшына, 5-літр. вядро | 2500 | 2000 |
| Брусніцы, 5-літр. вядро | | 12000 |

■ ТЭАТР

# Хутка новы сезон

**МАЛАДЗЕЧНА. Адразу пасля завяршэння апошняга гастрольнага выступлення, драматычны тэатр пачаў падрыхтоўку да новага сезона.**

За гэты час часткова адрамантаваны фасад установы, заменены вокны. Абноўлена фае і кафэ, рыхтуюцца два пакоі пад новыя грымёркі. Будынак тэатра памаладзеў, стаў больш прыгожым і ўтульным.

Усё гэта не без удзелу фірмы "Скарпіён", кіраўніком якой з'яўляецца Вячаслаў Рак. У самы кароткі тэрмін, нягледзячы на затрымку фінансавання, яны цудоўна выканалі наш заказ. Добра зроблены і ўнутраныя работы: пастараліся спецыялісты ТАА "Стройсэрвіс-Маладзечна". Працавалі шчыра, з разуменнем таго, што рамонт трэба зрабіць у самы кароткі тэрмін, і работнікі фірмы "Сэрвіс-Маладзечна".

Цяжка пералічыць усіх тых, хто надаваў драматычнаму тэатру новы твар. Наш калектыў удзячны гэтым людзям за адданасць, падтрымку культуры і мастацтва і чакае на прэм'ерных спектаклях у новым тэатральным сезоне.

**Сяргей ВАЛЬКОВІЧ, дырэктар абласнога драматычнага тэатра.**



Фота Яўгенії МАНЦЭВІЧ.

■ СТРАЧАНЫЯ ІМЁНЫ

# Масон з мястэчка Радашкавічы

**Нарадзіўся ён у мястэчку Шылува (цяпер Літва) у 1777 годзе. А бацька яго – бедны музыка – быў з мястэчка Радашкавічы Мінскай губерні. У 1800 годзе паступіў у Віленскую мастацкую школу. Скончыў яе ў 1803 г. Звалі яго Іосіф Аляшкевіч.**

У час вучобы быў вучнем Ф.Смуглевіча. Тры гады пераймаў яго веды, хоць прафесія мастака на той час была ненадзейная. У 1803 годзе едзе за мяжу, наведвае Дрэздэн, Парыж. Працуе ў майстэрнях французскіх мастакоў Энгра і Давіда. Па вяртанні нейкі час жыве на Валыні, дзе рыхтуецца паступаць у Віленскі універсітэт. Але праца не чакала, і ў 1810 годзе, адмовіўшыся ад студэнцтва, едзе ў Пецярбург займацца жывапісам.

Пецярбург яго адзначыў званнем акадэміка за карціну "Апека сірот". Прыязджаў мастак і на Беларусь. Працаваў у стылі позняга класіцызму і рамантызму. Пісаў партрэты Л.Сапегі, М.Радзівіла, А.Чартарыйскага, А.Міцкевіча, Г.Ржавускага, Плятэра і іншых славутасцей Айчыны. Гэта яго карціну часта згадвае мой сябар, калі з'язджае з дому, бо называецца яна "Развітанне гетмана Хадкевіча з маладой жонкай перад адпраўленнем пад Хоцін". Яго «Групавы партрэт», «Жаночы партрэт», «Партрэт дзяўчынкі» і партрэт А.Бакунінай захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

Сучаснікі любілі Іосіфа. За веды, талент і масонства. У 1822 годзе яго абралі старшынёй масонскай ложы Белага Арла. Галоўнай у Пецярбурзе. Вельмі набожны і шчодры, ён быў заўсёды добразычлівым да людзей. Прапагандаваў гуманізм у дачыненні да людзей.

Быў знаёмы асабіста з А.Міцкевічам, які прысвяціў яму адзін са сваіх вершаў. Спрабаваў пісаць літаратурныя творы і сам, дзе галоўнай думкай было назапашванне таго, што можа выратаваць чалавецтва ад пагібелі. Бо коціцца восень цывілізацыі.

Яго восень прайшла ў Пецярбурзе. Пахавалі земляка 5 кастрычніка 1830 года на Смаленскіх могілках, а творы блукаюць да гэтага часу па сусветна вядомых галерэях. У пошуках хаты. У пошуках Беларусі.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ ЮБІЛЕІ

# Убачыла свет кніга літаб'яднання «Купалінка»

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскае літаратурнае аб'яднанне "Купалінка" існуе ўжо даволі працяглы час. Утворанае яшчэ ў 1953 годзе пры абласной газеце "Чырвоны сцяг" вядомым беларускім пісьменнікам Аркадзем Чарнышэвічам, яно з'яўляецца адным са старэйшых у Мінскай вобласці. У розныя часы літаб'яднаннем кіравалі гісторык і літаратуразнаўца Мікола Ермаловіч, навукоўца і пісьменнік Генадзь Каханоўскі, празаік Уладзімір Давыдаў, а таксама супрацоўніца "Маладзечанскай газеты" Слава Міронава.**

Імёны, якія ўпершыню калісьці з'явіліся на старонках "Купалінкі", з цягам часу набылі вельмі шырокую вядомасць і сталі надзвычай знакамітыя – дастаткова толькі прыпомніць сталага даследчыка літаратуры Адама Мальдзіса, пісьменнікаў Алеся Рыбака, Міколу Гроднева, Вячаслава Дашкевіча, Алеся Бажко, драматурга Івана Козела, філолага-фальклaрыста Арсеня Ліса і інш.

Свой адметны след у гісторыі "Купалінкі" пакінулі такія асобы, як Пятро Бітэль, Віктар Носаў, Валерый Законнікаў, Уладзімір Зянько, Давід Юдовіч.

Дарэчы, сваю ласкавую, прыгожую, песенную назву літаб'яднанне набыло ў 1975 годзе. Яго сябрамі былі і застаюцца людзі розных прафесій і ўзростаў.

Зараз "Купалінку" ўзначальвае **Валерый Маркелаў**. Вершы ён піша з 1973 года, і ўжо даўно даволі паспяхова сумяшчае журналісцкую і літаратурную дзейнасць. На яго ўліку ўдзел у трох калектыўных паэтычных зборніках. У 1995 годзе быў выдадзены зборнік вершаў маладых паэтаў Міншчыны ( адных маладзечанцаў было восем імёнаў), аб'яднаных лозунгам "Нас слова Купалы да творчасці кліча", дзе В.Маркелавым былі прадстаўлены два вершы з так званай "грамадзянскай" лірыкі. У 1998 годзе выйшаў зборнік "Я аб табе спяваю песню", дзе акрамя кіраўніка "Купалінкі" было прадстаўлена яшчэ трое таленавітых творцаў. Адзін з іх Маладзечанскі "мэтр" **Вячаслаў Шнуркевіч** з цыклам вершаў "Чырвоныя макі".

Кіраўніца літаратурна-мастацкай гасцёўні "Узлёт" **Таіса Трафімава** з раздзелам "Як зёлкі ад пакут", па-жаночы рамантычная і свавольная, стварыла "словаў непаўторны шарм". А містычнае "Сузор'е Скарпіёна" **Святланы Посах** нібы свеціцца-зіхаціць россыпам узнёслых вобразаў. "Каханне – гэта не толькі неад'емная часцінка душы чалавека, але і яе сутнасць..." – сцвярджае паэтка. Такім чынам, можна зрабіць выснову, што ўсе вышэйназваныя аўтары вынайшлі пэўна акрэсленыя паэтычныя традыцыі, якія прадаўжае зберагаць "Купалінка" ў абноўленым складзе. Таму пацвярджэнне – калектыўны зборнік вершаў "Погляды", выдадзены ў другой дэкадзе жніўня бягучага года і нездарма прымеркаваны да 50-годдзя літаб'яднання. Аснову сённяшняй "Купалінкі" склалі дзесяць розных па стылістыцы, жанру, манеры пісаць паэтаў, кожны з якіх прадставіў па дзесяць лепшых на свой погляд твораў, разнастайных па тэматыцы і па магчымасці розных перыядаў творчасці.

Кіраўнік "Купалінкі" Валерый Маркелаў прадстаўлены цыклам вершаў "Непрадказальнасць", якія атрымаліся больш вострымі, рашучымі ды сапраўды непрадказальнымі, чым акварэльныя "Бэзавы водар, чаромхавы вечар" з папярэдняй кнігі "Я аб табе спяваю песню".

Старэйшым у "Купалінцы" зараз па праву можна лічыць **Алега Шчукіна**. Першая публікацыя яго датуецца 1952 годам. Шмат ён друкаваўся ў мясцовай і рэспубліканскай перыёдыцы, часам пад псеўданімам Алег Васільеў. "Мэтр" "Купалінкі" піша на рускай і беларускай мовах. Тэмы лірыкі – Радзіма, яе краявіды, яе неабсяжныя прасторы, яе няпросты лёс, а таксама каханне, сэрца, рамантыка трапяткой юнацкай летуценнасці.

У творчасці Алега Васільевіча прасочваецца класічнасць стылю, распаўсюджаныя класічныя прыёмы, звароты да творчасці Пушкіна, Лермантава, Крылова ( ён вядомы як байкапісец), прытым без запазычванняў і цытавання, таму што прыродны паэтычны талент і артыстызм натуры даўно ўжо дазволілі аўтару знайсці сваю нішу. Яго раздзел у новым зборніку называецца "Наследство" ( пераклікаецца з творам "Притча о наследстве").

**Станіслаў Касаты** выкарыстоўвае традыцыйныя, характэрныя для беларускамоўнай паэзіі рэальныя вобразы ці сітуацыі, каб паразважаць аб жыццёвых праблемах. Лірыка яго мяжуецца на стыку грамадзянскай і іранічна-філасофскай плыняў у творчасці. Цыкл яго вершаў носіць назву "Вёскі-мястэчкі" і з'яўляецца своеасаблівым экскурсам у гісторыю "малой радзімы".

**Іван Чарненка** – падкрэслена славянскі паэт. Уплыў Ясеніна і Лермантава, свае роздумы, "краса роднай прыроды", адценні барвовасці ці золата або наадварот фарбы халаднаватага, шчэ веснавога яркаблакітнага неба над маладзенькай зялёнай лістотай. Усім гэтым наскрозь прасякнуты пачуццёвыя, выразныя, "цёплыя" вершы Івана Чарненкі. Беларуская павольнасць ды паслядоўнасць спалучаюцца ў ім з украінскай нястрыманасцю і прамяністасцю. Дарэчы, аўтар вельмі добра валодае ўсімі трыма ўсходнеславянскімі мовамі.

**Лідзія Гардынец** быццам душою адчувае свае карані. "Краю мой, адна нам песня выйшла". Вобразы роднай вёсачкі, параўнанай з іконай святою, зорны россып жнівеньскіх начэй над яе зялёнымі лугамі, ці белы май, што яснай квеценню лунае ў паветры, восеньскія слёзы ці зімнія завеі – усё гэта застаецца ў сэрцы паэткі назаўжды.

Роднасная ёй і **Яніна Дзяркач**. "Я – сялянка..." Сутнасць, жыццёвы прынцып і жыццёвае крэда. Пачуцці складаныя і простыя адначасова. Думкі жанчыны і перакананні сталасці. Праз вобразы снегу, дажджу, сонца, вясны, кветак, светлых пакояў, сустрэч Яніна Дзяркач імкнецца перадаць сваё ўнутранае хваляванне.

"Фіялкі па аўторках" **Антаніны Няверы**... "Фіялкі па серадах" Андрэ Маруа... Ці можна паставіць знак роўнасці... Менавіта... Але лепш гэта будзе бясконцасць. Вечнасць Веры, Надзеі, Кахання. Дзякуючы мастачцы Антаніне Нявера вокладка кнігі атрымалася такая блакітна-летуценная з пяшчотнымі абрысамі анёлаў над аблокамі.

**Валянцін Бабкін** – іранічны, гумарыстычны і філасафічны адначасова. Нездарма дзесяць яго кароткіх паэтычных разважанняў, аб'яднаныя ёмкай назвай "...-ізмы"... Чаго-чаго, а "-ізмаў" у нашым жыцці хапае. Вершы Бабкіна ўвасабляюць ў сабе рысы фаталістычных опусаў Эклезіяста ды вытанчанасць Амара Хаяма з сумессю лірызмаў бардаўскай паэтыкі 60-х.

**Таццяна Мацэвіч**. "Многоточие"... Усе вершы, прадстаўленыя ў зборніку, на рускай мове, хаця беларускамоўныя ў яе атрымліваюцца не горш. Тэмы лірыкі – жаночыя ночы, душа жанчыны, апантаная прадчуваннем блізкасці, пошукі роднаснага, мары аб шчасці і жыццё ў расчараванні. Чаканне – шматкроп'е...

Мае "белыя" вершы (верлібры) (цыкл "Бесконечность полудня") з'явіліся вынікам рафінаванай працы над паэтычным словам. Гэтыя творы не для кожнага, бо карані безрыфмовых, "вольных" вершаў у далёкай старадаўнасці: ад скандынаўскіх і ірландскіх міфаў. З другога боку, адчуваецца ўплыў філасофіі "хіпі" і рок- тэкстаў.

Так што, можна сказаць, зборнік "Погляды" сапраўды атрымаўся рознабаковым і арыгінальным, бо ў кожнага з дзесяці аўтараў ужо даўно ёсць свая распрацаваная ніша. Іх літаратурная дзейнасць працягваецца і шукае магчымасць пабачыць свет, хаця пачынаць амаль заўсёды даводзіцца з гарадскога ўзроўню. Але неабходна прымаць да заўвагі тыя абставіны, што творчыя асобы – натуры вельмі тонкія, далікатныя, часам безабаронныя. І як бывае неабходна працягваць пісаць і жыць далей, нягледзячы ні на што.

Тым не менш, шмат творцаў супрацоўнічае з "Купалінкай". Сярод іх і кіраўнік літаратурнага гуртка "Праменьчык", што ў школе №5, паэт Лявон Цімохін, і дырэктар краязнаўчага музея ў Плябані Алена Ліхадзіеўская-Краўчанка, празаікі Аркадзь Жураўлёў і Валерый Тулоўскі, паэткі Ганна Бандаровіч, Антаніна Рудзь, Валянціна Захароўская, Таццяна Атрошанка; дарэчы, такія вядомыя асобы, як Юрый Церабун і Сымон Белы.

Гэта значыць толькі адно: "Юбілярка" "Купалінка" яшчэ не раз зацвіце прыгожымі буйнымі кветкамі і шмат часу будзе радаваць аматараў і знаўцаў літаратурнага слова.

**Таццяна ШЭЛЕГ.**

■ АЎТАЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# Масквіч–407

**Гісторыя 407–га пачалася ў 1950–м: у Маскве на трафейным абсталяванні пад імем "Масквіч–401" штампаваўся даваенны Opel Kadett. 407–я мадэль пайшла ў серыйную вытворчасць у маі 1958 года. Гэта быў значны крок наперад.**

Аб'ём рухавіка 1358 куб. см, 45 конскіх сіл разганялі аўтамабіль вагой у тону да 115 км/г. На 100 км машына расходавала 8–10 літраў бензіну маркі А–72. Аўтамабіль атрымаў новую 4–хуткасную каробку з сінхранізатарамі на вышэйшай перадачы і рычагом пераключэння на рулявой калонцы. Ну і, канечне, – бамперы з агрэсіўнымі "клыкамі" і накапотную эмблему ў выглядзе чырвонага сцяга.

Усе сацыяльныя слаі савецкага народа, хаця і былі роўнымі ў правах, усё ж адрозніваліся адзін ад аднаго і па сваіх патрэбнасцях, і па сваіх магчымасцях, таму "Масквіч–407" меў масу мадыфікацый. Ён выпускаўся ў якасці таксі – з таксометрам і слынным зялёным агеньчыкам. Іншая мадыфікацыя была адрасаваная інвалідам з поўнай ампутацыяй або паралічом абедзвюх ног – яна мела ручное кіраванне счапленнем, тормазам і дросельнай засланкай. "Хлеў" 411Н са складзенымі заднімі сядзеннямі даваў уладальніку пагрузачную пляцоўку даўжынёй у паўтара метра. Быў і "люксавы" экспартны варыянт – "Масквіч–407Э".

На базе вузлоў і агрэгатаў універсала ў 1959 годзе было пабудавана два дзесяткі аўтамабіляў павышанай праходнасці. Машына з тэнтам і ветравым шклом, што адкідвалася на капот, і "закрыты" варыянт – адпаведна "Масквіч–415" і "Масквіч–416".

У 1961 годзе ў адзіным экземпляры быў пабудаваны гоначны аўтамабіль "Масквіч–Г–3". Чатыры карбюратары К–28 павялічылі магутнасць да 70 к.с. Гоначны "Масквіч" лёгка разганяўся да 170 км/г, на ім былі выйграныя два залатыя і адзін сярэбраны медаль на першынствах СССР. А праз год на базе серыйнага седана пабудавалі два двухдзверныя купэ для ўдзелу ў ралі. Прыкметна аблегчаны аўтамабіль з фарсіраваным рухавіком магутнасцю 81 к.с. быў абавязковым удзельнікам амаль усіх буйных ралійных спаборніцтваў як у Саюзе, так і за мяжой.

Просты ў эксплуатацыі і эканамічны, 407–ы знайшоў заслужаную папулярнасць на дарогах Еўропы, Азіі, Паўднёвай Амерыкі і нават Афрыкі. На цэнтральнай вуліцы пакістанскай сталіцы Карачы доўгі час красаваўся плакат: "Ездзіце на "Масквічы" – лепшым малалітражным аўтамабілі ў свеце".

Да 1963 года было выраблена чвэрць мільёна "лепшых у свеце" малалітражак. Ад снежня 1962 года паралельна пачаўся выпуск пераходнай мадэлі з індэксам "Масквіч–403". Ён ужо меў пярэднюю падвеску новай канструкцыі, іншае рулявое кіраванне, счапленне з гідраўлічным прыводам і падвясныя педалі. А ў верасні 1964 года пачаўся серыйны выпуск "Масквіч–408". Гэта была ўжо зусім іншая машына. Ды і час наступаў зусім іншы.

**Аляксандр НОВІКАЎ.**



**Сорак пяць год таму з канвеера Маскоўскага завода малалітражных аўтамабіляў сышоў "Масквіч–407" – мара рабочых, калгаснікаў і працоўнай інтэлігенцыі. Тых, каму сёння пад семдзесят і больш і каму было абяцанае жыццё пры камунізме.**

Фота Дзмітрыя НОВАКРАШЧЭНАВА.

■ КОНКУРС

# Выйграй прыз

**Чарговы тур нашага традыцыйнага конкурсу, які мы праводзім разам з Першай акумулятарнай кампаніяй. Пераможцу, якога вызначыць латарэя сярод тых, хто правільна адкажа на наша пытанне, як заўсёды, чакае прыз.**

У мінулы раз, нагадаем, наша заданне было наступным. У 1957 годзе выйшла пастанова ЦК КПСС і Саўміна СССР "Аб асваенні на Мінскім аўтамабільным заводзе новых аўтамабіляў". Да гэтага часу аўтатэхніка, якая выраблялася на прадпрыемстве больш за 10 год, маральна састарэла. Да таго ж з'явіўся больш магутны, чым на МАЗ–200, рухавік ЯМЗ–236. Будучыя вырабы атрымалі наступныя індэксы: грузавік МАЗ–500, самазвал МАЗ–503, цягач МАЗ–504. Навінкі ў ва многім не былі падобныя да сваіх папярэднікаў. Але самым галоўным адрозненнем з'явілася абсалютна новая рэвалюцыйная кампаноўка. Увага, пытанне: у чым заключалася рэвалюцыйнасць кампаноўкі элементаў і вузлоў сямейства МАЗ–500?



**У той перыяд, калі нараджаўся МАЗ–500, некаторыя спецыялісты не верылі ў магчымасці новай канцэпцыі. Савецкія эксперты баяліся пагаршэння праходнасці. У канцы 50–х у свеце выпушчана было толькі 46 тысяч грузавікоў з размяшчэннем кабіны над рухавіком. Але выкарыстоўваць такую кампаноўку для вялікагрузных аўтамабіляў яшчэ ніхто не рашаўся. Толькі некалькі пазней замежныя кампаніі прыйшлі да такой схемы, якая ўвасоблена першапачаткова была ў МАЗ–500.**

Фота з Інтэрнэт–сайта МАЗа.

Рэвалюцыйнасць кампаноўкі заключалася ў размяшчэнні кабіны вадзіцеля над маторам, што выключала капот і давала магчымасць максімальна павялічыць платформу, што значна павялічвала ёмістасць апошняй. Калі пры традыцыйным размяшчэнні адносныя даўжыні платформы і базы (адлегласць паміж восямі) былі прыблізна роўнымі, то пры новым першая перавышала другую ў 1,4– 1,5 раза. Новаўвядзенне станоўча адбілася на такім важным паказчыку, як восевыя нагрузкі. Давялося дагрузіць пярэднюю вось дадатковай карыснай вагой з 4,2 т у МАЗ–200 да 6 т у МАЗ–500. Гэта дазволіла павялічыць грузападымальнасць транспартнага сродку адразу амаль на 2 т.

Адкрыццё дазволіла выключыць такі неабходны раней элемент канструкцыі, як капот з яго апорамі і перагародкай рухавіка (капотная частка), зменшыць памер крылаў, знізіць вагавыя характарыстыкі і габарыты, палепшыць доступ да рухавіка. Вадзіцелю стала лягчэй кіраваць машынай. Беларуская знаходка значна спрасціла і працэс зборкі: знікла неабходнасць у складаных штампах.

Правільна адказалі на наша пытанне **Анатоль Шпілеўскі** з Маладзечна, віляйчане **Т. Герасімовіч** і **Наталля Герасімовіч**. Жэрабя выбрала пераможцу – Наталлю Герасімовіч, якую чакае ў рэдакцыі прыз – маторнае масла ТНК.

### Адкажыце на пытанне

Сярод тых, хто адкажа на наша новае пытанне, зноў будзе разыграны прыз.

**Ён ніколі не супакойваўся на дасягнутым. І аднойчы прыйшоў да высновы, што самым слабым звяном на вытворчасці з'яўляецца чалавек. Яму патрабавалася ўсё больш рабочых, якія працавалі ўсё больш хутчэй, і лепшым сродкам дасягнення гэтага стала ўвядзенне ў 1913 годзе ўпершыню ў свеце канвеернай тэхналогія зборкі аўтамабіляў, што дазволіла ўсяго за адзін год узняць прадукцыйнасць працы на 4060%, а таксама дасягнуць пры гэтым стандартызацыі і ўзаемазамяняльнасці дэталяў. Назавіце імя гэтага чалавека.** Адказы, калі ласка, дасылайце на паштоўках на адрас рэдакцыі з паззнакай "аўта–мота".

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ІМЁНЫ



**Андрэ Густаў Сітраэн (Citroen) нарадзіўся 5 лютага 1878 года, памёр 3 ліпеня 1935 года.**

Фота з архіва "РГ".

# Андрэ Сітраэн

**Французскі інжынер і прамысловец, адзін з піянераў аўтамабілебудавання Андрэ Густаў Сітраэн (Citroen) нарадзіўся 5 лютага 1878 года, памёр 3 ліпеня 1935 года.**

Адукацыю атрымаў у слыннай Політэхнічнай школе. Працаваў інжынерам у розных невялікіх фірмах. У 1908 годзе ён паступіў на работу ў аўтамабільную кампанію братоў Морс і даваў выпуск прадукцыі са 125 да 1200 аўтамабіляў на год. Сітраэн таксама займаўся выпускам артылерыйскіх снарадаў, шаўронных шасцерняў і інш. Аддзяленне яго прадпрыемстваў было і ў Расіі. У Лефортаве (Масква) дзейнічаў завод таварыства «Шестерня–Цитроен». Неабходнасць рэарганізацыі вытворчасці для ваенных патрэб прывяла Сітраэна да думкі выкарыстоўваць у Еўропе дасягненні Генры Форда ў арганізацыі прамысловай вытворчасці. Выкарыстаў ён і ідэю аб выпуску надзейнага недарагога аўтамабіля, які б быў даступным для многіх людзей сярэдняга дастатку.

Заснаванае Андрэ Густавам акцыянернае таварыства (Societe anonime Andre Citroen) выпусціла свой першы аўтамабіль ужо ў 1919 годзе, (мадэль "А"). За паўгода было выраблена больш за 2800 гэтых машын. Хутка ўвайшоўшы ў шэрагі самых буйных аўтамабільных кампаній Францыі, Societe anonime Andre Citroen да 1929 года выпусціла каля 103 тысяч аўтамабіляў. Сітраэн надаваў вялікае значэнне рэкламе. Ён і тут істотна пераняў амерыканскі досвед. Але развіўся самы буйны эканамічны крызіс XX стагоддзя – "Вялікая Дэпрэсія". Андрэ Сітраэн не стаў скарачаць вытворчасць і стварыў новую мадэль "Сітраэн–7" у 1934 годзе, але ў тым самым годзе фактычна пацярпеў банкруцтва, страціў кантроль над сваім дзіцем. Кампанія "Сітраэн" у далейшым была рэарганізаваная, захаваўшы сваё імя.

Інтарэсы А.Сітраэна далёка не вычэрпваліся толькі арганізацыяй вытворчасці: ён фінансаваў розныя навуковыя экспедыцыі, захапляўся аўтагонкамі. Сусветную вядомасць атрымаў арганізаваны ім у 1931–1932 гадах аўтапрабег Бейрут–Пекін. Свайму роднаму Парыжу Сітраэн падараваў асвятленне для Трыумфальнай аркі і пляца Згоды.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Хто ўключае святлафоры

**МАЛАДЗЕЧНА. Новыя сучасныя святлафоры ўстаноўлены на скрыжаваннях Віленскай і Вялікага Гасцінца. Аналагаў іх у Мінскай вобласці пакуль што няма.**

Навінка тэхнікі зроблена ў Расіі і каштуе вельмі многа: у 11 мільёнаў рублёў абышлося толькі ўладкаванне скрыжавання светладыёдамі. І гэта пры тым, што сігналы пешаходам па-ранейшым дае старая тэхніка. Менавіта гэты ўчастак выбралі з-за яго небяспечнасці. Па аварыйнасці з ім можна параўнаць толькі скрыжаванні каля атэлье «Бярозка» і Машэрава – Вялікі Гасцінец.

Павелічэнне колькасці аварый начальнік прадпрыемства «Тарнада-Вест», якое падпарадкоўваецца УДАІ вобласці, Станіслаў Кананенка тлумачыць, па-першае, тым, што пры пабудове вуліц ніхто не ўлічваў, што колькасць машын так узрасце. Па-другое, усе вадзіцелі спяшаюцца, хоць на Вялікім Гасцінцы дзейнічае «зялёная хваля» для машын з хуткасцю 40-50 км/г. І нарэшце старое абсталяванне. Усе кантролеры – сэрцы святлафораў – даўно зношаныя, бо працуюць з канца 80-х гадоў мінулага стагоддзя, а ствараліся ў 1982-1984 гадах. Перагараюць лямпы або іх разам з лінзамі разбіваюць гараджане пасля Купалля ці выпускных вечароў.

Палепшыць сітуацыю кіраўніцтва горада мяркуе пры дапамозе новых святлафораў і апаратуры кіравання. Яны вытрымліваюць ваганні тэмпературы ад -40 да +60 і зроблены з ударатрывалага матэрыялу. Кожны сігнал дае набор светладыёдаў. Перагарыць адзін з іх – астанія працуюць. Таму гэта тэхніка больш даўгавечная. Тэрмін выкарыстання вытворцы даюць такі ж, як на бытавую тэхніку, дзесяць гадоў. Але яшчэ ніхто не бачыў, каб такі святлафор поўнасцю перагарэў. Акрамя таго, што светлавы паток больш магутны, рассейвацель не дае падманных блікаў, «фантомаў».

Такім чынам, новая тэхніка складаецца з адных пераваг. Адзіная яе загана – высокі кошт. Цана аднаго зялёнага светладыёда складае прыкладна 2 долары, а жоўтага – 25 цэнтаў. Бо пры канвеернай вытворчасці па аб'ектыўных прычынах атрымліваецца больш жоўтых крышталікаў.

Айчынны святлафор, безумоўна, дзешавейшы. Інстытут тэхнічнай кібернетыкі сумесна з «Тарнада-Вест» стварыў доследны экзэмпляр. А на яго масавую вытворчасць грошай няма.

Пакуль што ў Маладзечне робяць дарожныя знакі. Плёнка, якой яны пакрываюцца, імпартная. Затое на «Тарнада-Вест» ёсць унікальны прэс для вытворчасці круглых знакаў.

**Святлана ЦІШКО.**



**Станіслаў Кананенка дэманструе кантролер новага пакалення, які рэгулюе ўсю працу святлафора.**

Фота Святланы ЦІШКО.

# Бракаваныя аўто ў цэнтры скандалаў

**Сёлета аўтамабільны свет скалатнулі чарговыя буйныя скандалы з нагоды продажу аўтамабіляў з дэфектамі. У ЗША Нацыянальная камісія па бяспецы дарожнага руху (NHTSA) робіць расследаванне няспраўнасці, якую выявілі ў седанах Chrysler (мадэлі 300M, LHS, Concorde і Dodge Intrepid) выпуску 1999-2000 гадоў. Аўтамабілі на вялікай хуткасці раптоўна трацяць магутнасць, што можа прывесці да аварый. Вытворца ўжо адклікаў 600 тысяч гэтых машын.**

NHTSA «наехала» таксама на Volvo 850 у сувязі са скаргамі ўладальнікаў на выцяканне паліва, што небяспечна пажарам. Няспраўнасць знайшлі ў 200 тысяч аўтамабіляў, выпушчаных у 1993 – 1996 гадах. А General Motors адклікае 341 тысячу недарожнікаў Chevrolet Blazer і GMC Jimmy 1997 года выпуску: рамень бяспекі не фіксуецца ў нацягнутым становішчы і пры сутыкненні не абараняе вадзіцеля.

У Еўропе свая "песня". Год пачаўся з адклікання канцэрнам BMW 164 тысяч недарожнікаў «X5» – з–за магчымага пераціраня тармазнога шланга ў працэсе эксплуатацыі.

Пры купляньні джыпаў, асабліва амерыканскіх, а іх усё больш трапляе ў Беларусь, трэба ўлічваць, што найбольш небяспечныя пры перакульванні Ford Explorer, Chevrolet Avalanche, Land Rover Discovery. NHTSA не рэкамендуе перавозіць у недарожніках і пікапах дзяцей і падлеткаў да 18 год.

## Аўтамабілі, адкліканыя вытворцамі з пачатку 2003 года

| Вытворца | Мадэль (год выпуску) | Прычына адклікання | Колькасць |
|---|---|---|---|
| General Motors | Chevrolet Blazer, GMC Jimmy (1997 — 2002) | Рамень бяспекі не фіксуецца пры аварыях | 341 000 |
| DaimlerChrysler | Chrysler 300M,Concorde,LHS, Dodge Intrepid (2002 — 2003) | Канструктыўны дэфект дросельнай засланкі | 589 596<br>1 200 000 |
| | | Дэфект балтоў мацавання сядзенняў | |
| | Smart (2002) | Дэфет работы задніх ліхтароў | 50 000 |
| Ford | Crown Victoria (1997—2002) | Самаўзгаранне бензабака з–за пашкоджання балтамі мацавання задняга маста | Не паведамлялася |
| MG | MG TF (2002) | Не зацягнутыя балты мацавання амартызатараў | 7000 |
| FIAT | Punto (1999) | Магчымы парыў тармазнога шланга | 144 000 |
| Volkswagen | Golf, Passat, New Beetle, Audi A4 (2001—2002) | Страта магутнасці з–за дэфекту сістэмы запальвання | 500 000 |
| | Усе Audi, Seat, Skoda, VW (2001—2002) з рухав. 1,8; 2,3; 2,8; 4,0 л | Раптоўны выхад са строю шпулькі запальвання («check engine») | 850 000 |
| | Усе VW з рухав. 1,4 л (да снежня 1999г.) | Утварэнне лёду ў сістэме змазкі матора пры мінусавой тэмпературы | Не паведамлялася |
| BMW | X5 (жнів. 1999 — крас. 2002) | Магчымае пераціранне шланга тармазной сістэмы | 164 000 |
| Mazda | Mazda 323 (2002—2003) | Памылка ў разводзе электраправадаў | 1500 |
| | Mazda MPV (2002—2003) | Магчымасць пажару пры ўключэнні супрацьтуманных фар | 43400 |
| Honda | Accord (2000) | Замыканне электрасеткі з–за няспраўнасці фар | 13 000 |
| Nissan | Elgrand (крас. – ліст. 2002) прададзеныя ў Азіі | Няспраўнасць каробкі перадач | 31702 |
| Volvo | Volvo 850 (1993—1996) | Працяканне паліва з магчымасцю пажару | 198 000 |

**Крыніца: дадзеныя інфармацыйных агенцтваў і вытворцаў.**

■ АНЕКДОТЫ

## Не паверыў вачам

Аўтаінспектар не верыць сваім вачам: проста па тратуары едзе машына, праўда, вельмі павольна. Ён падыходзіць да вадзіцеля:

— Што вы робіце?!

Той канфузліва адказвае:

— Я толькі атрымаў правы і вельмі баюся сустрэчнага транспарту.

## Падзьмі ў трубачку

Аўтаінспектар спыняе машыну і кажа вадзіцелю:

— Праверка на алкаголь. Калі ласка, падзьміце ў гэту трубачку.

— У левую ці правую?

## Фотагенічнасць

Аўтаінспектар спыняе машыну, за рулём якой сядзіць жанчына:

— Вашы правы.

— Даражэнькі, не адбірайце ў мяне правы, у мяне там такая ўдалая фатаграфія.

## Схітраваў

Аўтамашына едзе з надзвычайнай хуткасцю. Яе спыняе работнік ДАІ:

— Чаму перавышаеце?

— Які ж рускі не любіць хуткай язды?

— Вашы правы?

— Якія ж правы ў беднага яўрэя?

## Здзіўленне

Аўтамабіль урэзаўся ў слуп, які стаяў на краі тратуара. З машыны выходзіць жанчына. Паліцэйскі аддаў ёй чэсць і кажа:

— Мадам, вы парушылі...

Жанчына перабівае паліцэйскага:

— Патлумачце мне, калі ласка, што робіць тут слуп у дзве гадзіны дня?

## Ацаніў

Амерыканец заехаў на мост на сваім старэнькім аўтамабілі і спыніўся перад шлагбаўмам. З будкі выйшаў здаравенны вартаўнік з ружжом:

— Праезд платны. Долар за машыну і долар за пасажырку.

Вадзіцель падумаў і адказаў:

— Машыну вы, бадай, за долар можаце ўзяць, а жонку менш чым за паўтара не аддам!

## Насустрач

У Германіі па аўтабане едзе пара і слухае радыё аб абстаноўцы на дарогах.

— На Лейпцыгштрасэ пробка, на Берлінерштрасэ – сур'ёзнае дарожнае здарэнне... Увага! На аўтабане такімсьці з'явіўся звар'яцелы вадзіцель, ён прэ па сустрэчнай паласе і не звяртае ні на што ўвагі!

Жонка падымае галаву:

— Дарагі! Паглядзі! А іх тут многа!

## Піла

У аўтобус уваходзіць мужчына і пытаецца ў вадзіцеля:

— А пілу можна з сабой везці?

— Ні ў якім разе.

— Няўжо не бывае выключэнняў?

— Ну, калі толькі яна добра ўпакаваная...

— Наконт упакоўкі не хвалюйцеся, – адказвае мужчына і, выглядваючы з акна, крычыць: — Гэй, жонка, заходзь!

# Барыс Кіт асуджае тэрарызм

**11 верасня – другая гадавіна самага буйнога тэрарыстычнага акта, сумны дзень найноўшай гісторыі. Жудасныя кадры катастрофы абышлі сусветныя тэлеканалы. Усіх уражвала відовішчнасць бездапаможнасці дзяржавы на праявы сутыкнення невядомых нам інтарэсаў, рэлігій, светапоглядаў, маральных нормаў. Сёння спрабуем знайсці адказы на гэтыя пытанні ў амерыканскага грамадзяніна і нашага земляка сусветна вядомага навукоўца Барыса Кіта, які жыве ў Франкфурце-на-Майне.**



11 верасня 2001 года ў Нью-Ёрку.

Фота з архіва «РГ».

**– Вы нядаўна вярнуліся з Амерыкі. Як краіна перажывала трагедыю? Ці адчулі простыя грамадзяне гэтае сутыкненне светапоглядаў?**

– Трагедыя аб'яднала раз'яднанае амерыканскае грамадства. Раней не кожны ведаў, што тэрарызм нясе гэткую небяспеку асабіста для яго, яго сям'і, дзяцей. Пасля 11 верасня кожны амерыканец асэнсоўвае небяспеку ісламскага фундаменталізму для сябе асабіста.

**– Зараз Вы жывяце ў Германіі. Як еўрапейцы аднесліся да антытэрарыстычнай вайны ў Іраку?**

– Мне вельмі шкада, што еўрапейскія краіны знайшлі гэткую вайну магчымасцю паправіць свае фінансавыя справы. Ні Германія, ні Францыя не асэнсавалі для сябе небяспеку гэтага дзяржаўнага ладу. Ён уяўляў з сябе пагрозу ўсёй цывілізацыі. Успомніце прымяненне хімічнай зброі супраць свайго народа.

**– У чым, на Ваш погляд, крыюцца прычыны тэрарызму?**

– Прычыны, большай за раз'яднанне людзей, няма. Бо кожная дзяржава вымушаная абараняцца паасобку. А тут патрэбна кансалідаваная барацьба супраць небяспекі.

**– Як вы ацэньваеце пазіцыю Расіі ў гэтым канфлікце?**

– Мне незразумела, як можна, маючы праблемы з тэрарызмам у сваёй дзяржаве, быць абыякавым да сусветных? У гэтым я бачу недаравальную памылку Расіі. Бо палякі, напрыклад, аказаліся намнога разумнейшымі. Бо сёння яны дапамагалі, а заўтра дапамога спатрэбіцца самім. Ніхто ў цяперашнім свеце не можа быць гарантаваны ад тэрарызму і ахвяр.

**– Што ж можна супрацьпаставіць тэрарыстам? Ці перспектыўная барацьба з імі сілаю?**

– Калі ў сярэдневеччы лічылася нормай адразаць галовы сваім падданым, то зараз у Амерыцы жыццё чалавека лічыцца найвялікшаю каштоўнасцю. Таму, калі патрэбна, магчымае прымяненне войскаў. Але мне падаецца, што аб'яднанне ўсіх дзяржаў у адзіны антытэрарыстычны саюз магло б гарантаваць, што падобнае не паўторыцца ў будучым. Патрэбны таксама адпаведны кантроль за грашовым забеспячэннем тэрарыстаў ў розных краінах свету. У супольнасці дзеянняў – выйсце.

Рэдакцыя нездарма звярнулася да гэтага чалавека, бо ён усё жыццё працаваў на карысць цывілізацыі. У шэрагу яго распрацовак – паліва для касмічных караблёў. Ён аб'ядноўваў сусветна вядомых вучоных СССР і Амерыкі ў галіне астранаўтычных ведаў, распрацоўваў праект падарожжа на Марс. Усё жыццё гэты чалавек быў Настаўнікам. І цяпер яго словы аб'ядноўваюць людзей розных нацыянальнасцей, хоць ён па-ранейшым любіць сваю маленькую Радзіму на вялікай карце свету.

**Па тэлефоне з Барысам КІТОМ гутарыў Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ ПІШУЦЬ ЧЫТАЧЫ

# Гаючы ўспамін

**24 ліпеня раптоўна пайшла з жыцця Ганна Сілаўна Сялюн. Разумны, добры, шчыры чалавек, светлая памяць аб якой прымусіла мяне ўзяцца за пяро.**

Ніколі не думала, што так цяжка будзе пісаць пра чалавека, якога ведала шмат гадоў. Хачу і не магу знайсці тыя словы, якімі б можна было расказаць людзям пра гэту шчырую, добрую, мудрую жанчыну, з якой мы сябравалі шмат гадоў.

Мы працавалі з ёй разам у аддзяленні вачэй гарадской бальніцы горада Вілейкі, якому Ганна Сялюн аддала 47 гадоў. Імя па бацьку гэтай жанчыны – Сілаўна, быццам бы само па сабе гаворыць аб той сіле, энергічнасці, якія былі ўласцівы яе характару. А яшчэ – працавітасці і пачуццю справядлівасці, якое было жыццёвым крэдам.

Доўгія гады аддзяленне вачэй бальніцы ўзначальвала Нойма Гардон. Я тады толькі пачынала тут сваю работу ў якасці медыцынскай сястры, а Ганна Сілаўна ўжо мела немалы вопыт і з'яўлялася, можна сказаць, правай рукой загадчыцы. Гэту медыцынскую сястру заўсёды пакідалі дзяжурыць у святочныя і выхадныя дні. Загадчыца казала, што будзе спакойная ў любым канцы СССР, калі ў аддзяленні застанецца гэты медработнік.

У добрыя часы ў бальніцы была мастацкая самадзейнасць. Часта выязджалі медыкі з канцэртамі. У ліку тых, хто першым выходзіў на сцэну, была і гэта жанчына. Яна расказвала звычайна вершы. Доўгія, шчырыя, а зала, у знак падзякі, выклікала яе на "біс".

Ішоў час, мяняліся загадчыкі аддзялення. Толькі хто б ні прыйшоў на гэту пасаду, не мог не зазначыць стараннасці і высокага прафесіяналізму медыцынскай сястры. Ёй не трэба было паўтараць некалькі разоў, Ганна Сілаўна разумела доктара з паўслова. Любіла гэта жанчына і хворых. Часта можна было бачыць, як яна, прысеўшы ля ложка, чытае ім кніжку альбо часопіс, расказвае гісторыі са свайго жыцця. А ўсё для таго, каб падбадзёрыць чалавека, падняць яму настрой, сагрэць цеплынёй свайго сэрца.

Я вельмі добра ведала як Ганну Сілаўну, так і яе сям'ю. У яе доме заўсёды было цесна ад сяброў і знаёмых. Людзі ішлі як з горам, так і з радасцю, бо ведалі, што тут заўсёды выслухаюць, падтрымаюць, дадуць параду. Жанчына была як хадзячая энцыклапедыя. Пра што ні спытай, абавязкова дасць тлумачэнне.

Разам з мужам яны выгадавалі сына і дачку, якія закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы, а затым дапамаглі паставіць на ногі ўнукаў. Спадзяюся, што яны назаўсёды захаваюць у сваіх сэрцах памяць аб маці і бабулі, якая аддавала ім часцінку свайго сэрца.

Буду вечна помніць аб ёй і я. Бо побач з гэтай жанчынай не толькі сталела, але і вучылася прафесійнаму майстэрству, праходзіла жыццёвыя "універсітэты". Шкада і балюча, што больш ніколі не ўбачу яе добрыя, разумныя вочы, не пачую голас, словы падтрымкі, якія так патрэбны чалавеку ў любы час.

**Ірына КАЦ, ГЕРМАНІЯ.**

■ ГРАМАДСТВА

# Што святкуем?

**Дню беларускага пісьменства сёлета спаўняецца 10 гадоў. З 1994 года ў першую нядзелю верасня беларускі народ актыўна адзначае гэта свята. Але за гэты час мы так і не вызначыліся, з якой нагоды весялімся.**

Калі дажынкі — свята ўраджаю, якім бы ён ні быў, то трэба меркаваць, 7 верасня будзем адзначаць высокі ўзровень развіцця беларускага пісьменства, у лік якога ўваходзяць не толькі кнігі і часопісы, але і шыльды, і нават надпісы на сценах. Зрэшты, апошнія звычайна выконваюцца не па-беларуску. Затое рукапісы не гараць. Наш народ не знікне за смугою часу, бо нашчадкам застанецца вялікая колькасць кніг беларускіх пісьменнікаў. Праўда?

Праблема ў тым, што кнігу на роднай мове, асабліва нядаўна надрукаваную, цяжка знайсці нават нашым сучаснікам, не кажучы ўжо пра маладзечанца XXX стагоддзя. У бібліятэках кніжныя навінкі калі і з'яўляюцца, то са спазненнем на год-два. Асартымент нашых кнігарняў параўнаць ні з чым прыстойным немагчыма. Калі ў маладзечанскай кнігарні «Спадчына» ёсць колькі кніг класікаў і пачаткоўцаў, то ў «Сучасніку» аддзел букіністычных прадстаўлены шырэй, чым беларуская мастацкая літаратура.

Апошнім часам парадавалі толькі гарадская камунальная служба, што змяніла назву прыпынка «Дворец культуры» і прадпрыемства «Лазурыт», якое аформіла свае вітрыны і рэкламны шчыт па-беларуску. Віншуем іх з надыходзячым святам.

**Святлана ЦІШКО.**

# Ёсць у Маладзечне клуб «Ладдзя»

**На працягу шасці год 12–ці– 17–гадовыя хлопцы і дзяўчаты з маладзечанскага клуба "Ладдзя" адпраўляюцца ў вандроўкі па родным краі збіраць па крупінках беларускую мінуўшчыну.**

У дзённіках экспедыцый можна знайсці паданні, гісторыі бажніц, зарысоўкі рэштак былых маёнткаў, расказы старажылаў і сведак вайнаў, схемы знаходжання партызанскіх баз і месцаў пахавання воінаў першай сусветнай вайны. Пошукаўцамі з "Ладдзі" за гэтыя шэсць год сабрана шмат гістарычных матэрыялаў. Напрыклад, гісторыі шляхецкіх родаў Дэдзеркаў, Саковічаў, Канаржэўскіх і Коцелаў, якія жылі на Маладзечаншчыне амаль з 15–га стагоддзя, гісторыі хрысціянскіх святыняў у Груздаве, Аборку, Нарочы і Пранчэйкаве. Імі праводзіліся даследаванні рэштак старажытнага сталеліцейнага завода ў Вішневе на Валожыншчыне, знойдзена некалькі пахаванняў з часоў першай сусветнай вайны, запісана шмат расказаў аб здзеках немцаў–фашысцкіх карнікаў над жыхарамі навакольных вёсак. Пры дапамозе Маладзечанскага завода металаканструкцый юнымі пошукаўцамі ўстаноўлены памятныя дошкі на месцах дзвюх пахаванняў расійскіх воінаў часоў першай сусветнай вайны, усталявалі абгародкі і крыж.

Сёлетні год для пошукаўцаў з "Ладдзі" таксама быў насычаным. Яны правялі 8 краязнаўчых экспедыцый. Усяго ў палявых умовах правялі 19 дзён.

Зусім нядаўна клуб "Ладдзя" прыняў удзел у гарадскіх спаборніцтвах Маладзечна па тэхніцы воднага турызму. Ад клуба было прадстаўлена тры каманды: "Бабуіны", "Мурлакатамы" ад школьнікаў і "Клякса" ад дарослых членаў клуба, работнікаў завода металаканструкцый. Вілія, слаламная траса і каяк, якія члены каманд "Ладдзі" бачылі ўпершыню, сталі сапраўднымі выпрабаваннямі для пошукаўцаў.

"Бабуіны" занялі першае месца і ўзялі галоўны прыз – пераходны кубак, на якім будзе красавацца разам з імёнамі пераможцаў былых гадоў надпіс: "2003 г. "Бабуіны", "Ладдзя". "Клякса" заняла 4 месца, а "Мурлакатамы" – пятае. Але сезон на гэтым не завершаны. Пошукаўцаў чакаюць яшчэ дзве экспедыцыі: да сталеліцейнага завода ў Вішневе і ў вёску Заброддзе на Вілейшчыне. А ў 2004 годзе "Ладдзя" збіраецца прайсці па старажытным, даўно забытым гандлёвым шляху, што пралягаў недалёка ад Маладзечна. Частка шляху будзе пераадолена на роварах, частка на байдарках, а частка пехатой – волакам з лодкамі на плячах.

**Аляксандр МІЦЮРА, камандзір пошукавай групы "Ладдзя".**

■ З НАШАГА АКНА

# Свята не старэе

**Вокны рэдакцыі не выходзяць ні на Цэнтральную плошчу горада, ні на бойкую вуліцу. Перад вачыма штодзень градкі (сярод якіх ёсць і наша) ды бетонная агароджа, якая, як падковай, атуляе двор шостай школы. Але і на гэтым "пятачку" кожны дзень нешта адбываецца. Пачынаючы з панядзелка, акурат ля нашага акна дзеці ідуць ў школу.**

1 верасня праца не спарылася. Не-не ды і хацелася зірнуць у акно на дзятву, якая спяшалася на першы ў гэтым навучальным годзе ўрок. Гаварлівымі чародкамі мералі свой шлях ад дома да школы старшакласнікі, пачаткоўцы ішлі з мамамі і татамі. Прыгожа апранутыя, з кветкамі ў руках, яны быццам бы напаміналі гораду, што зноў прыйшло свята. Свята, якое не старэе і не губляе з гадамі сваёй значнасці.

Рэдкі прахожы, убачыўшы дзяўчынку альбо хлопчыка з букетам у руках, не азірайся ім у след. У адных пры гэтым бачыла пяшчоту ў вачах, настальгію аб гадах былых – у другіх. Як жа не ўспомніць у такую хвіліну першы свой дзень у школе альбо настаўніцу, з дапамогай якой вывеў першую літару ў сшытку. А школьны званок, школьныя сябры, школьнае каханне? Ці ж выкрасліш іх з памяці, са свайго жыцця, дарэчы, самага бестурботнага. Шкада толькі, што разумееш гэта вельмі позна. І звычайна ў час, калі трэба прыняць першае ў сваім жыцці самастойнае рашэнне.

"Добры дзень, сонейкі!"— напісала на дошцы ў класе 1 верасня настаўніца майго сына і ўсіх 18 сваіх другакласнікаў, што літаральна засыпалі яе кветкамі, не забылася прытуліць да сябе і пагладзіць па галоўцы. Цёпла на сэрцы стала пасля такога абыходжання і захацелася паверыць у тое, што настаўніца для дзіцяці сапраўды другая мама.



На школьнай лінейцы. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Можа, таму і памятае большасць людзей, колькі б ні было ім гадоў, імя сваёй першай настаўніцы альбо класнага кіраўніка. Добра было б, каб у першыя дні кастрычніка вы адправілі ім яшчэ і віншавальную паштовачку з нагоды прафесійнага свята. Паверце, нашы настаўнікі гэтага вартыя!



У акно глядзела Марына СЛІЖ.

## ВІНШАВАНКІ

Віншуем **Краўчонак Святлану** з 30-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага ў жыцці. *Сям'я Тур.*

Віншую **Адамовіч Андрэя Яўгенавіча** з 22-годдзем! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, павагі, верных сяброў і ўзаемнага кахання. *Маці.*

Віншуем **Вайтовіч Алу Браніславаўну** з днём нараджэння. Жадаем ад Бога - здароўя, ад сонца - цяпла, ад людзей - дабра. *Пасекі (г. Валожын).*

Віншуем **Пастэрнак Наталлю Францаўну** з днём нараджэння! Здароўя, удачы! *Калектыў д/с №5 г. Вілейкі.*

Віншуем **Хілько Міхаіла Дзянісавіча** з 90-годдзем! Жадаем здароўя, пражыць да сотні. *Сын Мікалай, суседзі.*

Віншую **Лётку Наталлю** з 20-годдзем! Жадаю шчасця, верных сяброў і ўзаемнага кахання. *Сябар Саша.*

Віншую з юбілеем **Драчылоўскую Святлану Мікалаеўну** з в. Нарач. Жадаем здароўя, кахання, дабрабыту. *Муж, дзеці.*

■ ПАДПІСКА-2003

## «РГ» у кожны дом

**Самы час, каб падпісацца на чацвёрты квартал! Цэны не змяніліся! Індэкс індывідуальнай падпіскі 63212, кошт на месяц 2000 рублёў. Індэкс ведамаснай падпіскі 63369, кошт на месяц 5941 рублёў.**

Тэлефоны для даведак: Маладзечна – 7-05-73, Вілейка - 5-64-68, Валожын – 5-54-57, Мядзел – 5-47-52, Смаргонь – 2-14-65, Ашмяны – 2-03-99, Астравец – 2-17-58.

## Кінатэатр «Радзіма»

**5-7 верасня. "Фанфан-цюльпан",** Францыя, камедыя, прыгоды – у 15.00 і 19.10. **"Матрыца: перазагрузка"**, ЗША, прыгоды – у 17.00 і 21.00.

**8-14 верасня. "Тэрмінатар-3: паўстанне машын"**, ЗША, прэм'ера – у 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00.

### Для дзяцей

**6 верасня. "Карлік нос-82"**, Расія, мультфільм (2003 г.) – у 13.00.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

## ЗНАЁМСТВЫ

Малады чалавек пазнаёміцца з дзяўчынай да 30 год. Маладзечна-6, п/п МС 0307723.

Прыемная жанчына 33/165/60 пазнаёміцца з мужчынай для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п ВН 0048818.

Сімпатычная, адукаваная дзяўчына 25/170/55 пазнаёміцца з сур'ёзным і самастойным маладым чалавекам ад 26 да 33 год. Пітушчыя, з МПВ - не турбавацца! г. Вілейка-4, п/п №0056013.

■ ІМЯНІНЫ

**6 верасня**
**Праваслаўныя**: Арсенія, Георгія, Пятра.
**Каталіцкія**: Беаты, Магнуса, Яўгена.
**7 верасня**
**Праваслаўныя**: Варфаламея, Міны, Ціта.
**Каталіцкія**: Рэгіны, Мельхіёра.
**8 верасня**
**Праваслаўныя**: Наталлі, Андрыяна, Сцяпана.
**Каталіцкія**: нараджэнне Прачыстае Дзевы Марыі, Радаслава.
**9 верасня**
**Праваслаўныя**: Анфісы, Пімена, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Пятра, Сяргея, Якуба.
**10 верасня**
**Праваслаўныя**: Анатоля, Арсенія, Веньяміна, Дзяніса, Ігната, Іосіфа, Лявона, Макара, Навума, Панкрата, Паўла, Рыгора, Фёдара.
**Каталіцкія**: Лукача, Мікалая.
**11 верасня**
**Праваслаўныя**: Іван Галавасек.
**Каталіцкія**: Прота, Яна, Яцка.
**12 верасня**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Арсенія, Данілы, Івана, Макара, Паўла, Рыгора, Яфрэма.
**Каталіцкія**: Марыі.

■ КОНКУРС

## Мая Беларусь

**Дарагія ўдзельнікі! Мы рады, што вы знаходзіце адказы на самыя, здавалася б, цяжкія пытанні. Азнаёмцеся з правільнымі адказамі на пытанні трэцяга тура.**

1. Ураджэнцу Гродзеншчыны Ігнацію Дамейку было прысвоена званне нацыянальнага героя Чылі.

2. Эміліі Плятэр, якая ўзначаліла ў 1831 годзе паўстанцкі атрад, Адам Міцкевіч прысвяціў верш «Смерць палкоўніка».

3. Землеўласнік Эдвард Вайніловіч стаў фундатарам касцёла, які стаіць у Мінску на плошчы Незалежнасці.

4. Першы на Беларусі трамвай з'явіўся ў 1898 годзе на вуліцах Віцебска, а ў 1929 годзе — у Мінску. Зараз гэты від грамадскага транспарту дзейнічае таксама ў Наваполацку і Мазыры.

5. Самае глыбокае ў Беларусі возера Доўгае — 53,6 метра.

6. У 1996 годзе дзякуючы міжнароднай экспедыцыі адбылося сенсацыйнае адкрыццё гнездавання на нізінных балотах некалькіх тысяч пар вяртлявай чаротаўкі.

**Мікола ЛІПСКІ.**

## Запрашаем на дні Беларусі ў Маскве

**27–30 верасня ў Маскве пройдуць дні Беларусі. У праграме прадугледжваецца выстаўка прадукцыі, якая выпускаецца на прадпрыемствах Беларусі, семінары па актуальных пытаннях эканамічнага ўзаемадзеяння, культурная праграма.**

У рамках дзён Беларусі 29 верасня ў выставачным комплексе пройдзе кантактна–кааперацыйная біржа дзелавых колаў (перагаворы). Маладзечанскі рэгіянальны цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва запрашае кіраўнікоў суб'ектаў гаспадарання, індывідуальных прадпрымальнікаў, якія зацікаўленыя ў супрацоўніцтве, прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве. Кантактны тэлефон у Маладзечне 7–61–41.

**Уладзімір АФАНАСЬЕЎ,**
**камерцыйны дырэктар цэнтра падтрымкі прадпрымальніцтва, Маладзечна.**

■ КОНКУРС

## Зарабі білеты ў кіно

**Вітаю вас, шаноўныя! Вельмі прыемна, што вы не застаецеся абыякавымі да нашай "разумовай гімнастыкі".**

Магу пахваліцца, што вакол конкурсу сфарміравалася кола пастаянных удзельнікаў, можна сказаць лідэраў, і хай не заўсёды білеты ў кіно дастаюцца менавіта ім, але не магу не адзначыць тых чытачоў, што ў жніўні правільна адказалі на заданні, якія друкаваліся ў трох і больш нумарах. Гэта маладзечанцы Ігар Сільвановіч, Юрый Юхневіч, Дзмітрый Пакладок, Віктар Іванавіч Яцкоўскі. Магчыма, па выніках наступнага месяца лідэрам станеце менавіта вы! Далучайцеся да нас!

З задавальненнем паведамляю, што з заданнямі мінулага нумара справіліся Таццяна Ягела, Дзмітрый Мікалаевіч Працько, Павел Трыпуцька, Дзмітрый Пакладок, Віктар Іванавіч Яцкоўскі, Вікторыя Дудко, Павел Юркевіч, Ігар Сільвановіч з Маладзечна. На кон былі выстаўлены 3 білеты, і ў гэты раз пашчасціла Паўлу Юркевічу, Вікторыі Дудко, Дзмітрыю Мікалаевічу Працько. Віншуем! Запрашэнні ў кіно вас чакаюць да наступнай пятніцы (12 верасня).

А зараз, правільныя адказы на мінулыя заданні:

I. Заданне-жарт. Патрэбна пераліць ваду з другой шклянкі ў пятую і паставіць пустую шклянку на месца.

II. З трыццаці — ніводнага.




А зараз, новыя заданні. Паспрабуйце, не адрываючы алоўка ад паперы і не праводзячы двойчы адну і тую ж лінію, намаляваць фігуры, адлюстраваныя на малюнках. Пры гэтым прапаную яшчэ адну ўмову: лініі нідзе не павінны перасякацца.





Адказы прымаюцца да аўторка (9 верасня) уключна. На кон выстаўляюцца толькі 3 білеты.

Чакаю вашых лістоў з новымі цікавымі заданнямі і прапановамі. Заставайцеся ў нашай кампаніі!

**Падрыхтавала Аксана Кулеўніч.**

## Купон 36

рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

